

*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№10** (92) *ліпень 2014*

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

чытайце нас зараз і на kamunikat.org

**Наконец-то**. В Шклове открыто здание Центра коррекционно-развивающего обучения. Многолетняя одиссея с поиском спонсоров на благое дело завершилась успешно. Учреждение рассчитано на 108 воспитанников с особенностями психо-физического развития из всего района. Остались мелочи: оборудовать столовую, завершить работы по устройству бассейна и детской площадки, но они, в конце концов, праздник могут и испортить. С другой стороны, проблемы с финансированием Центра на фоне нескончаемой череды праздников с многомиллиардным бюджетом вызывают недоумение у многих шкловчан и ставят под сомнение социальные приоритеты в деятельности вертикали – ведь 70% затрат на строительство и обустройство так необходимого району Центра взяли на себя спонсоры.

**Дожили.** Шкловскому заводу газетной бумаги возместят проценты за пользование гарантированным займом в 2015-2016 гг. в размере ставки, которая определена в кредитном договоре, с возмещением в белорусских рублях по официальному курсу Нацбанка на дату возмещения. Именно завод газетной бумаги организовывает производство по выпуску бумаги-основы для декоративных облицовочных материалов мощностью 30 тысяч тонн в год. О том, что в РБ параллельно создано несколько аналогичных производств с нарастающими проблемами реализации, скромно умалчивается.

## “Шклоў-Інфо” 5 год!

Так, пяць гадоў таму выйшаў першы нумар нашай газеты. Многа гэта ці мала? Для афіцыйнага выдання, якое спецыялізуецца на дыфірамбах цяперашняй уладзе і рэкламных матэрыялах, тэрмін, здаецца, і не вельмі доўгі, калі не ўлічваць мяцежную душу не самарэалізаваных журналістаў. А вось для незалежнай прэсы – гэта цэлая эпоха, бо станаўленне выдання, у штаце якога няма ніводнага прафесійнага журналіста, можа цягнуцца дзесяцігоддзямі. Так, у нас няма дыпламаваных “працаўнікоў пяра”, але ёсць велізарнае імкненне да праўды жыцця. У нас няма магчымасцей вялікіх тыражоў, але ж няма і недахопу чытачоў – газета “Шклоў-Інфо” якраз і запатрабавана ў раёне і не толькі. Нас чытаюць ва ўсіх абласных гарадах і у Мінску, таксама перыядычна ў Літве, Польшчы, Швецыі і Расіі. Рэдакцыі штомесячна прыходзіцца рассылаць газеты па шмат якіх адрасах.

Наша задача: дынамічна дапаўняць раённае жыццё запатрабаванай і цікавай інфармацыяй, садзейнічаць выяўленню і, па магчымасці, вырашэнню надзённых праблем, што з’яўляецца асаблівай і пачэснай формай ўдзелу ў станаўленні грамадзянскай супольнасці.

Тэмы нашага выдання шматлікія і надзённыя: эканоміка раёна, жыццё горада і аграгарадкоў, часта падымаем тэмы карупцыі, але ж і перспектывы раёна. Многа надаём увагі гісторыі Шклова, краязнаўству, знакавым падзеям. Па водгуках чытачоў у мінулых нумарах вялікі інтэрэс выклікалі матэрыялы: «Кадры решают всё…», «Водный мир Шклова», «Гістарычны брэнд Шклова і прывабнасць інвестыцый», «Пра помнікі, трактарабудаўнікоў і нашу будучыню», публікацыі на рэлігійныя тэмы. Мы часцей, чым афіцыйная прэса, звярталісь да праблемаў чыгункі. Заўсёды з цікавасцю чытачы знаёміліс з рубрыкамі «Шкловский район в «Зеркале», «А что там у соседей?», «Знакамітыя людзі Шклоўшчыны».

Не ўсё у нас атрымліваецца добра, але ж усё часцей чытачы звяртаюцца да нас за дапамогай у вырашэнні сваіх праблем. І тое, што асобныя з іх сёння вырашаны, дабаўляе нам гонару – выходзіць, што працавалі не дарэмна.

Зараз рэдакцыя працуе над знакавым напрамкам для нашага грамадства – барацьба з карупцыяй. Мы пастараемся больш матэрыялаў і не толькі па Шклоўскаму раёну прапаноўваць нашым чытачам па гэтай тэматыцы. Думаем, што мясцовай уладзе і праваахоўным органам таксама яна спатрэбіцца.

Паважаныя чытачы, заставайцеся з намі. У рэдакцыйным партфелі шмат цікавых напрацовак, якія вам, спадзяемся, спадабаюцца.

# Размышления у парадного въезда

Людей встречают по одежке, а города по…въездному знаку. Шклов не исключение, тем более, что в оригинальности авторов этого самого знака, расположенного со стороны Могилева, не откажешь. Автор статьи не против высоких оценок творчеству архитекторов и инженеров, причастных к его созданию и ваянию, но есть и определенные сомнения в новаторстве композиции, в которую явно не вписались православный крест и линии электропередач. Полезность электроснабжения не вызывает сомнения, въездной знак (хоть какой) быть должен по определению и по предписанию Правил дорожного движения. А вот крест…Вопрос необходимости его установки явно дискуссионный (не на кладбище же въезжаем) – ведь ставить кресты за околицей – традиция католическая, это православные ее переняли. Тогда вопрос не совсем риторический – а как быть католикам, иудеям в Шклове без «божьей» защиты?

Мост через Серебрянку. Если, проезжая через него, посмотреть направо, увидим неработающие часы внушительных размеров (и такой же стоимости). Опять же, неужели авторы проекта не знали, что практически ни в одном городе часы, вмонтированные в землю, не работают. Сколько усилий для исправления ситуации прилагается в областном центре, но и в Могилеве с часами около кинотеатра «Октябрь» имеются постоянные проблемы. Короче, удивить мир шкловскими часами не удалось. Вопрос в другом, а нужно ли было тратить огромные средства на сооружение заведомо неработающего механизма?

Еще больший абсурд наблюдаем сразу за мостом слева – рукотворная дамба, призванная спасать несколько домов от весеннего паводка. Сотни миллионов рублей и практически полгода отвлечения техники и людей на бездарно созданную ситуацию. Разрешив в свое время строиться шкловчанам (как все равно мест иных нет) на периодически затопляемой территории, местные власти ввергли людей и череду сменяемых чиновников в бесполезные траты денег и нервов. Вопрос, кстати, еще не закрыт – как поведет себя дамба в экстремальных условиях пока не совсем ясно.

А вот и сам въезд в город – красиво и безопасно, и герб Шклова весь гармонично дополняет городскую композицию. Правда, чуть дальше, возле памятника солдату-освободителю, мы видим набор бронетанковой техники, расположенной не совсем в духе российско-белорусской дружбы – ствол танка направлен на Смоленск, по Питеру «готовы» стрелять БМП и БТР. А может в связи с последними событиями в Украине так и должны белорусы ориентировать свои вооруженные силы? Мол, Россия, готовься к эффективному нападению из Шклова. Впрочем, недавно водворенный на постамент возле нового моста гренадер развеивает эти сомнения.

Памятник огурцу очень быстро стал достопримечательностью города, его брендом. Правда, Шклов давно уже не огуречная столица и металлический огурец лишь напоминает о прежней зажиточности шкловчан. А жил красиво и богато Шклов во времена Великого Княжества Литовского, о чем красноречиво напоминают летописи, хранящиеся как Беларуси, так и в архиве князя Чарторийского в Польше. Как поют беларусы под огурец после “чаркі і шкваркі” - “няма таго што раньш было”. Будем надеяться, што времена добротные для Шклова еще вернутся, в том числе и через развитие частного предпринимательства и огородничества.

Если сегодня попробовать определить памятник в городе, который нужно снести, на защиту трактора, установленного на «сельхозтехнике» (какое милое слово для многих шкловчан!), то на его защиту станет немало горожан – старенький ДТ-54 как память о тяжелых послевоенных годах, о неимоверном труде на благо города и Родины. Такое не забывается и не продается.

В парке не совсем скромно притаился памятник Семену Зоричу, известному ловеласу и фальшивомонетчику. Русский генерал, серб по национальности, за 20 лет доведший свое поместье до глубокой нищеты, за какие-то мифические заслуги, построенные на голоде подначаленных, почему-то удостоился памятника. У нас что, нет своих достойных людей, благодаря которым Шкловский район известен и в ратных, и в трудовых делах? Или из Шклова мало вышло политических деятелей, ученых, поэтов, писателей, музыкантов? Видимо, в определении сущности района не всем дано осознать его и достойно представить землякам и гостям. И не будем ли мы еще десятилетиями любоваться коричневым огурцом да серебряным «чужаком», начавшим свой феерический взлет в карьере с турецкого плена?

Мы обещаем читателям представить подборку материалов о знатных земляках, заслуживающих достойного внимания и увековечивания в родном городе. Также мы ждем реакции шкловчан на данное предложение.

А.Стекловский

## “ЗНАЙ, ВНИМАЮЩИЙ ЭТИМ КАМНЯМ… “

Наведаўшы яўрэйскія могілкі горада Шклова, увагу прыцягне знешне сціплы помнік. Надпіс паведамляе: “Жертвам фашизма. Благородных имён, перечислить невозможно, их много. Знай внимающим этим камням. Но никто не забыт и ничего не забыто.” Побач знаходзяцца яшчэ 7 брацкіх магіл і некалькі аднаасобных помнікаў з прозвішчамі загінуўшых у 1941 годзе.

Гэтых людзей не мінуў смяротны віхур апошняй вайны. Фашысцкія захопнікі з першых дзён акупацыі распачалі свае крывавыя акцыі супраць мірнага насельніцтва. Пайшлі аблавы і паляванне на людзей. Непасрэдна яўрэяў прымусова накіроўвалі ў спецыяльныя паселішчы – гетта, дзе іх мэтанакіравана ізалявалі ад іншага насельніцтва і стваралі ўмовы на бязлітаснае фізічнае вынішчэнне.

У горадзе Шклове першае такое паселішча было створана на тэрыторыі ільнозавода. Жыхар Шклова Лявон Яфімавіч Аўчыннікаў успамінаў, што вязні гетта знаходзіліся пад пастаяннай аховай, а на адзёжы абавязкова была прышыта зорка жоўтага колеру.

З расказа жыхаркі горада Станіславы Міхайлаўны Пятроўскай: “Спачатку ў яўрэяў усё адымалі – ежу і адзёжу. Потым сагналі іх на невялікую вуліцу, дзе яны знаходзіліся ў паўразбураных дамах па 100-150 душ. Здзекі былі жудасныя, людзей білі, вырывалі валасы. Кожны немец мог стрэліць у яўрэя, кінуць у калодзеж. Увосень змучаных людзей пачалі знішчаць. Рэгулярна машыны вывозілі вязняў на расстрэлы”.

Другое гетта акупанты ўтварылі каля вёскі Рыжкавічы.

З успамінаў жыхара Шклова Барыса Міхайлавіча Гальперына: “Нашу сям’ю выгналі з хаты і пад прымусам прывялі ў вёску Рыжкавічы на прыбрэжны каля Дняпра луг. Тут акупанты стварылі гетта для яўрэйскага насельніцтва. Непасрэдна я трапіў у групу мужчын, прыкладна ад 15 да 65 гадоў, якіх нібыта павінны былі накіраваць для выканання нейкіх работ. Добра памятаю карнікаў. Адзежа на іх была чорнага колеру, на рукавах афіцэраў чырвоныя павязкі з чорнай свасцікай у цэнтры белай акружнасці. У салдат на грудзях вісеў знак у выглядзе раскінутых крылляў арла. Сярод суматохі, лямanту і крыку мне ўдалося непрыкметна збегчы і пераплыць на другі бераг ракі. Гэта адбылося 10 ліпеня 1941 года. Мужчын, сярод якіх першапачаткова знаходзіўся і я, расстралялі на калгасным лузе – Сямёнаўка... Перад маімі вачыма заўсёды ўсплываюць страшэнныя моманты таго жудаснага часу: карнікі кідаюць у калодзеж сям’ю шклоўскіх жыхароў Таруч, фашыст збівае сталага чалавека, выбівае залаты зуб, а потым страляе ў яго, шматлікія грабяжы і здзекі акупантаў”.

А вось як успамінаў гэтыя падзеі тутэйшы вясковы жыхар Аляксандр Андрэевіч Рэвяка: “У 1941 годзе я быў яшчэ падлеткам, але добра памятую вялікую колькасць людзей, якія знаходзіліся на лузе каля царквы. Яны сядзелі ў цеснаце на голай зямлі ў дзень і ноччу, у спякоту і непагаць. Людзі пакутвалі ад шматлікіх здзек і жудасных забойстваў. Напрыклад, каму-небудзь з ахвяр на галаву ўстаноўвалі запалкавы карабок і, адышоўшы, пачыналі па яму страляць. Памятаю, як два юнакі спрабавалі ўцячы, але ахоўнікі іх злавілі і расстралялі”.

Шмат для каго ў гэты час апошні шлях прайшоў па вулачцы, якая мела вясковую назву “Пяскі”. Менавіта па ёй трэба было прайсці, каб апынуцца на яўрэйскіх могілках, дзе таксама карнікі праводзілі расстрэлы.

Фашысты не прыпынялі пошук яўрэяў і пасля заключэння іх у гетта. Няспынныя аблавы дазволілі акупантам затрымаць каля 100 чалавек і трымаць у хляву калгаса “Іскра” каля ільнозавода.

З успамінаў Клары Захараўны Альтшулер: “Мяне і маму загналі паліцаі ў хлеў калгаса “Іскра”. Тут знаходзілася каля 100 чалавек, усе пасля аблаў у Шклове. Некаторы час мы тут жылі і вымушаны былі спаць прама на падлозе. У пачатку кастрычніка змучаных людзей павялі на расстрэл. Побач ішла група мясцовых жыхароў, якіх прымусілі глядзець на пакаранне. Мне і маме ўдалося непрыкметна перабегчы да гэтых людзей, а потым схавацца ў вёсцы Ганцавічы”. Дакументы сведчаць, што на тэрыторыі калгаса “Іскра” фашыстамі было знішчана 96 чалавек, у тым ліку мужчын –30, жанчын – 40, дзяцей – 26.

Масавыя расстрэлы вязняў гетта ў Шклове пачаліся прыкладна ў канцы верасня – пачатку кастрычніка. Акупанты амаль штодзённа на машынах вывозілі мірных жыхароў на знішчэнне.

З даклада Магілёўскай абласной камісіі аб масавым вынішчэнні мірнага насельніцтва гітлераўскімі захопнікамі на тэрыторыі вобласці ў 1941-1944 гадах: “...В 1941 году в Шклове фашисты согнали около 300 человек, погнали к противотанковому рву у деревни Заречье и произвели массовый расстрел. Заставляли самих несчастных людей ложиться в противотанковый ров, после чего их расстреливали. Часть людей осталось живыми и ранеными, и их вместе с мёртвыми засыпали землёй. Двое суток шевелилась земля на этом месте. Успамінае Ася Барысаўна Цэйтліна: “...На

наступны дзень пасля Йом-Кіпура (Суднага дня), 3 кастрычніка, на машынах прыбыў атрад карнікаў з сабакамі. Яўрэяў выганялі з хат і павезлі ў вёску Зарэчча. Адначасова прыгналі яўрэяў з Рыжкавіч і іншых месц. Усіх прымусілі сесці на зямлю і пачалі абшукваць.Калі знаходзілі каштоўнасці – забіралі. Потым вялікі людскі натоўп павялі за вёску, дзе знаходзіўся вялікі роў. Я ішла разам з бацькамі. Раптоўна яны мяне адштурхнулі, гаворачы наступныя словы: “Ідзі да знаёмых. Мы потым цябе забярэм”. Сярод ляманту і крыку мне ўдалося схавацца ў хаце ранейшага старшыні мясцовага калгаса. Я чула стрэлы і кулямётныя чэргі. Мае бацькі загінулі, а я вымушана была пакутваць і хавацца па вёсках, пакуль не скончылася вайна”.



На фота: Дар’я Фейн (ЗША) – ініцыятар мерапрыемства і Ася Цэйтлін – сведка тых жудасных падзей

У 1955 годзе, улічваючы патрабаванні яўрэяў-франтавікоў, на месцы расстрэлу была праведена эксгумацыя. Людскія астанкі былі перавезены на яўрэйскія могілкі і пахаваны ў некалькіх брацкіх магілах. У час эксгумацыі невялікая частка загінуўшых была распазнана сваякамі. Гэтыя астанкі былі пахаваны ў індывідуальных магілах побач з брацкімі пахаваннямі. З таго часу паўстаў каля пахаванняў і помнік ахвярам.

Але ішоў час. Помнік паступова прыйшоў у занядбанне. Паўстала неабходнасць яго аднаўлення. Мясцовая яўрэйская супольнасць, а таксама прадстаўнікі шклоўскай яўрэйскай дыяспары замежжа з вякай заклапочанасцю звярнуліся да кіраўніцтва Шклоўскага райвыканкама аб неаходнасці аднаўлення помніка. І вось надышоў такі дзень. 29 чэрвеня 2014 г. на старажытных яўрэйскіх могілках Шклова пачалі збірацца людзі.



Сталыя ветэраны і моладзь, прадстаўікі ўлады і грамадскіх аб’яднанняў, госці з суседняга Магілёва і замежжа. Былі ўспаніны тых жудасных падзей, малітва яўрэйскага святара, гучалі спевы на яўрэйскай мове і, як і павінна быць у яўрэйскім асяроддзі, гучалі чароўныя гукі скрыпкі. На прыканцы, па старажытнаму яўрэйскаму звычаю, маленькія каменчыкі ляглі на помнік.

Падзеі закранулі душэўнае пачцццё кожнага прысутнага. Народная памяць не згасне.

***А.Грудзіна***

**Сёлета споўнілася 95 гадоў**

**Гарадзішчанскаму паўстанню**

Абвясціўшы аб праве нацый на самавызначэнне, савецкая ўлада з самага пачатку свайго існавання прыклала ўсе сілы для адраджэння імперыі ў новым, бальшавіцкім фармаце. Нацыянальныя ўскраіны агнём і мячом вярталіся пад расійскі дах. Пры гэтым бальшавікі кроілі карту па сваім капрызе. Так, ад Беларусі былі адрэзаныя землі Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў. Іх вяртанне пасля разглядалася як акт “асаблівай ласкі”. І сёння, як бачым на Украіне, «картачныя гульні» бальшавікоў на ўзбраенні расійскіх палітыкаў, якія ліха выкарыстоўваюцца для анексій чужых тэрыторый. Вясна 1919 года — вайна на беларускіх землях у разгары. Беларускія мужыкі шалёна адбіваліся ад новых прэтэндэнтаў на ўладу з Масквы. Той гарачы год даў велізарную колькасць сваіх, беларускіх «Майданаў». Усёпаглынальная нянавісць да чужой бандыцкай улады — галоўная заахвочвальная сіла, якая падымала народ. Антысавецкі сялянскі фронт праходзіў праз кожную вёску і мястэчка. Паўстанне на ўсходзе Беларусі — яркі фрагмент гэтага ўзброенага процістаяння. Крыніцы даюць багатую палітру мяцежнай беларускай вёскі, раскрываюць забытыя імёны.

У тую вясну Магілёў страціў званне губернскага горада. Гомельскія ўлады і камерсанты пераканалі крамлёўскіх кіраўнікоў перанесці губернскую адміністрацыю ў Гомель. Аднак разам з ганаровым статусам Гомель атрымаў непрымірымае да новай улады насельніцтва. Найбольшым галаўным болем быў Горацкі павет, дзе барацьба не аціхала з вясны 1918. У склад тагачаснага Горацкага павета ўваходзілі і сучасныя шклоўскія

землі.

Людзі, якія прыйшлі да ўлады пасля Лютаўскай рэвалюцыі, не мелі намераў аддаваць яе саветам і рэўкамам, якія з'яўляліся ніадкуль і складаліся з выпадковых людзей. Чырвоныя наязджалі ў вёску за рэсурсамі: ладзілі акцыі па канфіскацыі хлеба, вайсковыя і працоўныя мабілізацыі. Беларуская вёска не проста супраціўлялася рабунку, але спрабавала скінуць уладу бальшавікоў і ўсталяваць сваю.

Беларускім даследчыкам яшчэ трэба будзе ацаніць маштаб сялянскай вайны на сваіх землях. Чарада паўстанняў — Кармянскае, Гарадзішчанскае, Быхаўскае, Стракапытаўскі мяцеж — узрушылі усход Беларусі з надыходам вясны. Паўстанцкія настроі распальвала гвалтоўная мабілізацыя. Сігналам да выступлення станавіліся вясковыя сходы, на якіх камісары пагрозамі змушалі моладзь ісці ў чырвонае войска.

Гарадзішчанскае паўстанне ўспыхнула адначасова ў дзясятках вёсак. Адзін з лідараў паўстання ў Горацкім павеце - атаман Даніла Іваноў. У кожнай вёсцы знайшоўся завадатар, які быў звязаны з кіраўнікамі паўстання, былымі афіцэрамі царскай арміі Карпам Пруднікавым, Сяргеем Вязавым, братамі Піменавымі. Чырвонаармейскія атрады, прысланыя мабілізаваць, сустракалі ўзброеныя людзі.

З нагоды прыбыцця такой групы 8 мая ў цэнтры Гарадзішча сабраўся сход. Павел Трутчанкоў, член мясцовага выканкама, прапанаваў чырвоным задаволіцца добраахвотнай мабілізацыяй. Яго горача падтрымалі. Камісары паехалі ні з чым. А 9 мая прайшоў яшчэ адзін мітынг, на якім гучалі заклікі ісці ў «зялёнае» войска. Гарадзішчанцы схапілі 7 чырвонаармейцаў з атрада камісіі па барацьбе з дэзерцірствам і вайсковага інструктара. Іх расстралялі. Схапілі пад гарачую руку і крамніка Міркіна, але яго адпусцілі, як чалавека патрэбнага для вёскі.

Паўстанцы не былі антысемітамі: калі падчас мітынгу казначэй валаснога выканкама Цярэшка прапанаваў выступаць з лозунгам «Бі жыдоў — ратуй Расею», яго проста прагналі. Правакатар знік, прыхапіўшы пад шумок касу выканкама. Ён пасля вернецца ў вёску з бальшавіцкім карным атрадам. Схапілі паўстанцы і следчага з Горак, які прыехаў высвятляць абставіны расстрэлу чырвонаармейцаў. (Цікава, што пра прыезд следчага папярэдзіў ягоны ж памочнік — спецыяльна прыехаў у Гарадзішча на матацыкле.) Следчага раззброілі і павялі ў лес на расправу і, відаць, імітавалі расстрэл. Следчы сышоў жывы.

Так было па ўсім наваколлі: вясковыя сходы ператвараліся ў мітынгі па мабілізацыі ў зялёнае войска. Падзеі адбываліся ў дні велікодных святаў. Агітатары проста з набажэнстваў запрашалі людзей на плошчу. Адначасова збіралі зброю для вясковых атрадаў. На дарогах выстаўляліся пасты.

Захавалі архівы апісанне такога мітынгу ў вёсцы Пугляі (сучасны Аршанскі раён). На Вялікдзень у цэнтры сабраліся практычна ўсе жыхары. Мясцовы актывіст Васіль Ліпкін горача заклікаў: у Чырвоную армію не хадзіць! 19-гадовы Андрыян Магер, які прыехаў на сход роварам з Оршы, раздаваў газеты «Партызан» і ўлёткі. Было вырашана не пускаць чырвоных у вёску. На ўездзе з боку Оршы арганізавалі засаду. У яе трапіла група з чатырох чырвонаармейцаў пад кіраўніцтвам прадстаўніка камісіі па барацьбе з дэзерцірствам. Адзін чырвонаармеец адразу быў забіты, двое трапілі ў палон, яшчэ двое ўцяклі.

Паўстанцы рыхтаваліся да ваенных дзеянняў. Разбіўшыся на тры групы, яны сыходзілі ў лес. Каля 50 чалавек з рэчмяшкамі і вінтоўкамі накіравалася пад Бабінічы, яшчэ 10 чалавек — у бок вёскі Чорнае, каля паўсотні размясціліся блізу родных Пугляеў. У паўстанцаў было тры кулямёты, адзін з якіх перадалі ў суседнія Бабінічы. Там сабралася 80 чалавек, гатовых супраціўляцца. Вясковую моладзь, якую новая ўлада спрабавала загнаць у войска, агітавалі пасланцы эсэраў з Оршы. Яны спадзяваліся, што да паўстанцаў далучыцца батарэя 8-га артдывізіёна, які размяшчаўся ў аршанскім кляштары.

Арганізатары спрабавалі надаць зялёнаму войску падабенства рэгулярных частак. Вясковыя атрады зваліся ротамі, камандаванне даручалася былым афіцэрам. Такую баявую адзінку ў сваім родным Ліхачове (сучасны Горацкі раён) ўзначаліў герой Першай сусветнай Даніла Іваноў. Яго сябры і аднадумцы ўсталі на чале сялянскіх дружын у суседніх вёсках.

Фёдар Трутчанкоў, Мікалай і Пракоп Піменавы — у Гарадзішчы, Ціт Цялятнікаў і Філіп Раманаў — у Ордаці, Ілля Кавалёў — у Шэдах, Іван Драчоў — у Любіжы, Васіль Ліпкін і Андрыян Магер — у Пугляях. «...У наша сяло ад паўстанцаў прыехаў пасланец, які сабраў моладзь і заклікаў далучыцца да паўстання. Наступіў, як я тады меркаваў, зручны момант, і я вырашыў далучыцца...» — расказваў на допыце Іваноў, арыштаваны НКВД у 1939. Ён вярнуўся ў роднае сяло ў пачатку 1918. Пасля фронту доўга лячыўся ад атручання газамі ў Кіеўскім шпіталі, пасля быў мабілізаваны ў Чырвоную армію і праз пару

месяцаў дэзерціраваў. Практычна ўсе мужчыны з Ліхачова яго веку ўдзельнічалі ў паўстанні. У шэрагі паўстанцаў ішлі цэлымі сем'ямі.

Паўстанцы не былі маргіналамі. У кіраўніцтве былі шматлікія прадстаўнікі савецкай улады з мясцовых: ваенрук Пруднікаў, інструктар усенавуча Піменаў, работнік пошты Вязаў. Старшыня Благоўскага сельсавета Гаеў «пад выглядам выканання работы па службе, браў актыўны ўдзел у шпіянажы» на карысць паўстанцаў. А член валаснога выканкама Трутчанкоў «вёў агітацыю не здавацца савецкай уладзе, а арганізавана ісці супраць Рабоча—сялянскага ўрада». Паўстанцы падзяліліся на групы лікам ад 15 да 50 чалавек, размясціліся ў навакольных вёскі лясах. Даследчыкі называюць агульную колькасць паўстанцаў да 5000 чалавек.

18 мая ў Горацкім павеце было ўведзенае надзвычайнае становішча. Мясцовая ўлада прасіла ў Гомеля вайсковага падмацавання. У той жа тэлеграме гаварылася, што пакуль «паўстанцы ўстрымліваюцца ад наступальных дзеянняў, перакрылі бліжэйшы тракт», але, турбаваліся мясцовыя камуністы, ёсць вялікая верагоднасць захопу павятовага цэнтра. У Горкі прыбыў пяхотны атрад у 350 чалавек з пяццю кулямётамі і 25 коннікаў, са Смаленска прыйшоў атрад з 600 чалавек, з Магілёва — рота. Намеснік губернскага ваенкама Галаганаў дакладаў у Гомель, што супраць паўстанцаў сканцэнтравана больш за 1000 штыкоў пры кулямётах, гарматах і кавалерыі.

22 мая а 14-й чырвоныя пачалі баявыя дзеянні. У вёскі Любіж атрад паўстанцаў быў разгромлены. У Гарадзішчы чэкісты захапілі штаб і харчовы склад. Увечары таго ж дня з Гомеля выехаў губернскі ваенны камісар Кампан, «узяўшы з сабой атрад кітайцаў». (Пасля ўтварэння Гомельскай губерні ЧК займела там свой інтэрнацыянальны батальён. Акрамя рускіх — беларусы і габрэі ўваходзілі таксама ў «славянскую» групу — і кітайцаў, прыцягваліся найміты з нямецкіх і аўстрыйскіх земляў.)

Баі былі жорсткія. Мясцовым чырвоным героем стаў памочнік павятовага ваенкама Парункевіч, які на чале атрада ў 25 чалавек завязаў бой з «бандай», у некалькі разоў большай. У духу таго часу газеты напісалі: «Ваявалі да апошняга патрона і загінулі смерцю храбрых». Пра зялёных герояў сведчаць матэрыялы следства. Гераічна загінуў Васіль Ліпкін, які, абыходзячы паўстанцкія пасты, заўважыў атрад непрыяцеля. Ён спрабаваў папярэдзіць таварышаў пра небяспеку і, як у крутым баевіку, быў застрэлены ў жыце. «На здушэнне былі кінутыя рэгулярныя часткі Чырвонай арміі, якія мелі артылерыю. Тым не менш, было вырашана супраціўляцца», — успамінаў на допыце ў НКВД Даніла Іваноў. Паўстанцы доўга не складалі зброю. Павятовы камітэт паведамляў, што «разагнаныя шайкі зноў збіраюцца ў лясах». Паўстанне доўжылася месяц, актыўныя баявыя дзеянні завяршыліся да 8 чэрвеня.

Але да нармалізацыі становішча ў Аршанскім і Горацкім паветах было далёка. У сярэдзіне чэрвеня са станцыі Орша ў напрамку Горак пагрузіліся дадатковыя сілы пяхоты і кавалерыйскі атрад. Паўстанцы рассыпаліся па павеце асобнымі баявымі групамі.

Іваноў зноў працягне вайну з саветамі поплеч з Пруднікавым і Піменавым. Увосень 1920-га яны з'явяцца ў родных месцах пад сцягам генерала Булак-Балаховіча, пасля доўга будуць партызаніць супраць саветаў. След Іванова згубіцца ў засценках НКВД. Тры браты Піменавы будуць у розны час затрыманыя на савецкай тэрыторыі і скончаць жыццёвы шлях у высылцы, далёка ад родных мясцін. Гарадзішчанскае паўстанне паклала пачатак баявой біяграфіі многіх яго ўдзельнікаў. Аднойчы уступіўшы на шлях барацьбы, яны не пакінулі яго да канца сваіх дзён



*Атаман Даніла Іваноў.*

***(Паводле газеты "Наша Ніва")***

# Р. Кастусёў.

## Аб паспяховасці "мадэрнізацыі" ў асобна ўзятай "Народнай Рэспубліцы Дразды"

**У апошнія два месяцы 2014 года ў вышэйшых эшалонах беларускіх уладных структур памаленьку сталі заціхаць размовы аб ходзе працэсаў мадэрнізацыі прадпрыемстваў розных галін**

**вытворчасці і “разрульванню” праблемаў у эканоміцы нашай краны. А з надыходам лета і набліжэннем сезона адпачынкаў для чынавенства пытанні мадэрнізацыі прадпрыемстваў і рэфармавання эканомікі адышлі на другі план.**

За 2013 і пачатак 2014 года Аляксандр Лукашэнка разам са сваімі паплечнікамі паспрабаваў разабрацца з праблемамі на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі, у будаўнічым комплексе, а таксама ў ЖКГ , сельскай гаспадарцы…Найбольш эфектна, загадкава і нечакана завяршылася “разрульванне” праблемаў у пытаннях мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. Крыху больш чым праз месяц пасля наведвання Барысава кіраўніком краіны, на ААТ “Барысаўдрэў” у ноч з 17 на 18 снежня 2013 года адбыўся пажар. А пажар прыпыніў і ўсялякія размовы на гэтую тэму. Да астатніх прадпрыемстваў дадзенай галіны ўжо, як кажуць, рукі не дайшлі. Завяршылася чарговым “пшыкам” і дзейнасць працоўнай групы па вывучэнню праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы і выпрацоўцы рашэнняў, накіраваных на паляпшэнне спраў у галіне. Дадзеную камісію, створаную распараджэннем кіраўніка дзяржавы ад 4 лютага 2014 г., узначальваў старшыня КДК Якабсон.І зусім бясслаўна закончылася дзейнасць працоўнай групы, створанай гэтым жа распараджэннем, пад кіраўніцтвам прэм’ер-міністра Мясніковіча для рашэння праблемных пытанняў у аграпрамысловым комплексе. У склад групы ўваходзілі 26 чалавек, у тым ліку старшыня прэзідыуму НАН, намеснік упраўляючага справамі прэзідэнта, старшыні Белстату, Дзяржмаёмасці, Мінскага аблвыканкама; міністр сельскай гаспадаркі разам са сваім намеснікам, намеснікі міністраў эканомікі, фінансаў, МУС, па падатках; генеральныя дырэктары аграрных навукова-практычных цэнтраў, прадстаўнікі банкаў, вядомыя кіраўнікі і спецыялісты сельгаспрадпрыемстваў…За час працы дадзенай групы значна ўзраслі кошты на шматлікія прадукты харчавання, а некаторыя мясныя вырабы зусім зніклі з паліц магазінаў. А аб прагнозных паказчыках па заробках працаўнікоў сяла за кошт мадэрнізацыі сельгаспрадпрыемстваў да 750 долараў у месяц і планах выхаду ў 2015 г. на гадавы збор ураджаю зернявых культур у аб’ёме 12 млн. тон ужо нават ніхто з чынавенства і не заікаецца. Спачыла ў нябыт і Рэспубліканская камісія па вывучэнню сітуацыі ў будаўнічым комплексе пад началам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта…А як прыгожа ў свой час гучалі завярэнні кіраўніцтва краіны, што ў 2015 годзе кошт будаўніцтва 1 кв.м жылля будзе раўняцца аднаму сярэдняму месячнаму заробку па краіне. Праўда, як эксперымент, у Беларусі ёсць асобна ўзятыя месцы, дзе праз мадэрнізацыя будаўнічай галіны ў сферы будаўніцтва жылля ўжо ўдалося дасягнуць значных поспехаў, і кошт 1 кв.м раўняецца сярэднемесячнаму заробку, а то і ніжэй. Адным з такіх месцаў з’яўляецца катэджны пасёлак каля вадасховішча Дразды ў Мінску. Тут атрымалі ўчасткі пад будаўніцтва і пабудавалі або яшчэ будуюцца самыя “нуждающиеся” грамадзяне нашай краіны. Падобныя “Дразды” існуюць ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі і іншых буйных гарадах. Ды як не будавацца “нуждающимся” грамадзянам, калі дзяржава толькі за гэтую пяцігодку ўклала ў “мадэрнізацыю” 30 млрд. долараў. А за 20-годдзе, як заявіў Лукашэнка журналістам 10 чэрвеня 2014 г. у час наведвання Сербіі, ад 120 да 130 млрд. долараў. Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе “драздоўскі” досвед будзе распаўсюджаны па ўсёй краіне, і астатнія грамадзяне, што дзесяткамі год стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў, атрымаюць такую ж магчымасць.

## Жители Чечерского района сообщают об африканской чуме

## свиней

Ветслужба отрицает новый очаг заболевания. Жителям деревни Покоть Чечерского района сообщили в Залесском сельсовете, к которому относится населенный пункт, что у павших ранее на их подворье свиней обнаружена африканская чума, пишет БелПАН. *«Причем никакого документа нам не предоставили, не показали даже, но приказали вырыть во дворе яму и закопать инвентарь — корыто, вилы, лопаты, все, что контактировало со свиньями, разобрать пол в сарае. Мы пенсионеры, как нам это все сделать? Экскаватор нам*

*пришлют, но как мы разберем сарай самостоятельно? Почему все это надо закапывать на нашем подворье, рядом с колодцем?»* — заявили местные жители. В Залесском сельсовете пояснили, что, по правилам, закапывать инвентарь и прочее нужно именно в зоне очага — то есть на подворье, и обещали помочь пенсионерам. По неофициальной информации, африканская чума свиней выявлена в трех сельсоветах Чечерского района. Вместе с тем главный ветеринарный врач района **Николай Акулич** утверждает, что АЧС в районе нет. *«Нет у нас таких документов, нет такого диагноза — африканская чума, в районе, как и в области, просто проходят профилактические мероприятия»*, — сообщил главный ветврач. Чечерский район граничит с Россией, где в семи приграничных районахhttp://charter97.org/ru/news/2014/7/23/

## Бялыніцкі раён: афіцыйна АЧС няма, а свінні працягваюць гінуць

**Улады і ветэрынарныя спецыялісты Бялыніцкага раёна па-ранейшаму працягваюць сцвярджаць, што віруса афрыканскай чумы свінняў у Бялыніцкім раёне не выяўлена. Між тым у асабістых гаспадарках насельніцтва раёна з "невядомых" прычын працягваюць гінуць свінні. Выпадкі падзяжу жывёлы маюць месца ўжо ў тых населеных пунктах, дзе яны не фіксаваліся раней.** Так, ў вёсцы Прыхабы ў адной з мясцовых гаспадынь ад невядомай хваробы загінулі дзве дарослыя свінні. Пасля гэтага да жанчыны завіталі ветэрынарныя спецыялісты, якія забілі і закапалі ўсё пагалоўе маючыхся ў асабістай падсобнай гаспадарцы свінняў (іх было больш за дзесятак). Таксама была праведзена комплексная дэзінфекцыя ўсіх жывёлагадоўчых памяшканняў. Згодна неафіцыйнай інфармацыі, атрыманай у прыватным парадку ад аднаго з ветэрынарных спецыялістаў, пасля лабараторных даследаванняў быццам бы быў пацверджаны дыягназ АЧС. Афіцыйна ж ветэрынарныя спецыялісты Бялыніцкай райветстанцыі працягваюць сцвярджаць, што выпадкаў афрыканскай чумы свінняў у Бялыніцкім раёне не зафіксавана. Абсалютная большасць жыхароў Бялыніцкага раёна упэўнены, што мясцовыя ўлады спецыяльна прыхоўваюць выпадкі захворанняў жывёлаў афрыканскай чумой свінняў, каб інфармацыя не набыла шырокі розгалас у краіне. Тым больш, што самі ветэрынарныя спецыялісты ў прыватным парадку настойліва раюць пазбаўляцца ад свінняў, пакуль яны не загінулі, бо ёсць вялікая рызыка захворвання жывёлаў на АЧС. Нягледзячы на спякотнае надвор'е, з-за адсутнасці дакладнай інфармацыі вяскоўцы працягваюць прыразаць свінняў, каб не страціць іх наогул. Грамадскія актывісты Бялыніцкага раёна лічаць, што ўлады ў любым выпадку будуць спрабаваць прыхоўваць інфармацыю аб выпадках захворванняў свінняў на АЧС, бо існуе афіцыйная ўстаноўка на тое, што гэта хвароба ў нашай краіне ўжо пераадолена. Тым больш, што падчас нядаўняга наведвання Бялыніцкага раёна кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка паставіў задачу перад чыноўнікамі ўжо ў першым квартале 2015 года як мінімум аднавіць той узровень вытворчасці свініны, які быў у краіне да ўспышкі АЧС у мінулым годзе.

Дарэчы, у Бялыніцкім раёне ўсё пагалоўе свіней у гаспадарках і ў фермераў раёна было ліквідавана яшчэ ў мінулым годзе, зараз свінагадоўляй займаюцца толькі прыватнікі. Між тым на тэрыторыі суседніх з Бялыніцкім **Шклоўскага**, Магілёўскага і Бярэзінскага раёнаў **дзейнічаюць буйныя свінагадоўчыя комплексы**.

**Ч**итать полностью: http://news.tut.by/society/406129.html

P.S. **У Бялыніцкім раёне мясцовыя ўлады па-ранейшаму не даводзяць да мясцовых жыхароў ніякай інфармацыі пра тое, якой хваробай выкліканы выпадкі падзяжу свінняў у раёне. Аднак некаторыя мясцовыя жыхары атрымалі пісьмовыя папярэджанні аб тым, што трымаць свінняў немэтазгодна ў сувязі з пагрозай захворвання на афрыканскую чуму.**

У прыватнасці, такія папярэджанні за подпісам памочніка пракурора Бялыніцкага раёна атрымалі некалькі жыхароў аграгарадка Цяхцін. Тут раней мелі месца выпадкі падзяжу свінняў ад невядомай хваробы, пасля чаго ветэрынарныя спецыялісты выконвалі комплекс мерапрыемстваў па дэзінфекцыі. Мясцовыя жыхары ўсхваляваныя тым, што яны так і не здолелі атрымаць нейкай дакладнай інфармацыі наконт захворванняў свінняў.

Рэдактар І.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618;
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.07.2014